ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# ПРАБЛЕМА НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ Ў АПАВЯДАННЯХ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА ПРА ВАЕННЫЯ І РЭВАЛЮЦЫЙНЫЯ ПАДЗЕІ

ЛЮБОЎ ГЛАЗМАН

***Анатацыя:*** У артыкуле даследуецца мастацкае асэнсаванне ў апавяданнях М. Гарэцкага праблемы нацыянальнага адраджэння беларускага народа падчас ваенных і рэвалюцыйных падзей першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя. Пісьменнік у гэты перыяд актыўна звяртаецца да праблемы пошукаў нацыянальнай ідэнтычнасці, самаўсведамлення беларуса, шукае прычыны крызісных сітуацый і шляхі выхаду з іх.

***Ключавыя словы:*** Першая сусветная вайна, нацыянальная ідэнтыфікацыя, беларускае адраджэнне, нацыянальны характар.

## THE PROBLEM OF NATIONAL REVIVAL IN M. HARECKI'S MILITARY SHORT STORIES

***Abstract:*** The article deals with the understanding of the problem of the Belarusian people's national rebirth during the war and the revolutionary events of the first decades of the 20th century in M.Harecki's short stories. In this period, the writer focuses on the problem of national identification and self-determination of Belarusians. He looks for the reasons of crises and ways out of them.

***Keywords:*** World War I, National Identification, Belarusian Revival, National Character.

Творы Максіма Гарэцкага, у якіх асэнсоўваюцца падзеі Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, рэвалюцый 1917 года, усталявання савецкай улады, драматычных памежаванняў Беларусі паводле Брэсцкага міру (1918) і Рыжскага міру (1921), набываюць усё большую актуальнасць. Традыцыйна ў іх перш за ўсё акцэнтуецца тое ў адлюстраванні вайны, што ўспрымаецца як інварыянтнае для ўсёй сусветнай гуманістычнай традыцыі: пакуты салдата на фронце ("Генерал" (1916), "На імперыялістычнай вайне" (1928)), мірных жыхароў падчас ваенных дзеянняў ("Літоўскі хутарок" (1915)), бежанцаў ("Жартаўлівы Пісарэвіч" (1928)). Аднак у творчай спадчыне пісьменніка ёсць і варыянтнае – спецыфічнае, у параўнанні з іншакультурнымі традыцыямі, адлюстраванне ваенных падзей. Гэта актуальнасць для Гарэцкага нацыянальнай праблематыкі. Таму важна ў прозе Гарэцкага пра тыя часы звярнуць увагу на акцэнтаваныя ім праблемы пошукаў нацыянальнай ідэнтычнасці, самаўсведамлення "тутэйшага" чалавека – працэсы, якія былі паскораны глабальнымі катастрафічнымі падзеямі. У горне ваенных катаклізмаў, развалу Расійскай Імперыі, узнікнення новых абрысаў еўрапейскіх дзяржаў менавіта і адраджалася самасвядомасць народнай масы. У гэтых абставінах М. Гарэцкаму ўдалося зрабіць відавочнай саму праблему такога адраджэння.

У цэнтры апавядання "Рускі" (1915) – трагічнае становішча малых народаў, лёс якіх падчас Першай сусветнай вайны цалкам вызначаўся капрызамі сусветных дзяржаў. Перад намі хворы, прывезены з рускааўстрыйскага фронту ў бальніцу салдат-беларус. Адразу насцярожвае настойлівае жаданне селяніна з Магілёўскай губерні называць сябе рускім. Другая важная дэталь – месца асноўных падзей. Бо "рускі" сустракаецца з "аўстрыякам"-украінцам недзе на нейтральнай паласе паміж рускімі і аўстрыйскімі пазіцыямі, што, акрамя іншага, сімвалічна ўказвае на няпэўнасць становішча героя і такіх жа навабранцаў, як ён: мабілізаваных на сусветную вайну расійскім царом з аднаго боку, з другога – аўстрыйскім імператарам. Ва ўмовах вайсковага падпарадкавання па-за традыцыйнай мараллю герой трапляе ў супярэчлівае, нават безвыходнае становішча. "Рускі" не ўсведамляе цвёрда, хто ён і чаму такім па-чалавечы блізкім яму аказаўся забіты ім па ўсіх правілах вайсковага статута "аўстрыяк". Намінацыі "беларус" і "ўкраінец" у апавяданні Гарэцкага адсутнічаюць, як няма іх і ў свядомасці персанажа – але менавіта такім чынам яны яскрава актуалізуюцца для чытача. Герой жа страчвае розум ад навязанай яму дваістасці. *"Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!"* (Гарэцкі, 1984: 154) гучыць адначасова як самаапраўданне забойства і пакаранне за яго. Немалаважную ролю адыгрывае вобраз доктара, які пазначае ў адказ на пакутлівыя крыкі сваю пазіцыю: *"Ну-ну-ну, гэта не столь важна"* (Гарэцкі, 1984: 157). Не важна, бо, вядома, вайна ёсць вайна, яна

нібыта раўняе ўсе народы перад тварам смерці, а на вайне кожны – пешка і павінен выконваць сваю функцыю – забіваць ворага...

Апавяданне "У 1920 годзе" (1921) яшчэ больш блізка і разам з тым маштабна падыходзіць да трагічных для Беларусі падзей. Дзеянне адбываецца ўвосень 1920 года – падчас Слуцкага паўстання на тэрыторыі Беларусі. Пісьменнік добра паказаў, што справамі беларусізацыі як на заходніх, так і на ўсходніх тэрыторыях Беларусі займаліся не толькі сумленныя людзі (герой-апавядальнік, сям'я селяніна-праваднікa, які дапамагае апавядальніку перайсці цераз лінію фронту паміж Мінскам і Вільняй), але таксама прыстасаванцы, што дбаюць найперш пра асабістыя выгоды і не вераць у рэальнасць і перспектывы беларускай дзяржаўнасці. Сутыкненне такіх розных людзей, іх матываў і пазіцый надае апавяданню асаблівую рэалістычнасць, а прысутнасць адданых нацыянальнай справе герояў выконвае, бясспрэчна, вельмі важную ідэйную функцыю. Да таго ж пісьменнік акцэнтуе ўвагу на росце свядомасці, асабістай актыўнасці простых людзей, такіх як селянін-праваднік. Гэтыя людзі разумеюць, што знаходзяцца ў абставінах, калі за сваё месца ў жыцці, свае інтарэсы трэба змагацца самім. Але такіх людзей, паказвае Гарэцкі, занадта мала. Большасць, на жаль, складаюць такія, як няшчырыя "беларусізатары" з абодвух бакоў ад лініі фронту: з савецкага (настаўнік) і з польскага (вярбоўшчык у беларускае войска). Першы – нахлебнік і дармаед, другі – увогуле вораг, які чакае, пакуль "карабель дасць цечу", каб самому ў зручны момант яго патапіць. Пісьменнік паказвае: трагізм падзей, што скончыліся Рыжскім мірам і падзелам Беларусі на Заходнюю і Савецкую, прадвызначаны не толькі глабальнымі прычынамі. Важная і недастатковасць патрыятычных настрояў сярод саміх беларусаў. Аднак нават у самых безвыходных абставінах, у часы паражэнняў, а апавяданне пісалася менавіта ў такі перыяд, Гарэцкі верыць у недарэмнасць змаганняў: *"беларуская агітацыя страшэнна шырыцца. У нас увесь народ за беларусаў, хоць другі дагэтуль і не ведаў, што ён таксама беларус. За беларусамі цяпер пойдзе кожны селянін..."* (Гарэцкі, 1990: 117). Гарэцкі не рэабілітуе настаўніка, з вуснаў якога гучаць гэтыя словы, але той факт, што нават такія несвядомыя людзі не могуць ігнараваць рэальнасць нацыянальнага адраджэння на ўскраінах Расійскай Імперыі, дзе палымнее вайна, выяўляе цвёрдую веру самога пісьменніка ў вяртанне народа да сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці.

У апавяданні "Усебеларускі з'езд 1917-га года" (1922) рэтраспектыўна закранаюцца яшчэ ранейшыя, чым у папярэднім творы, падзеі. Беларускія сяляне, каапературыўшчыкі, распавядаюць галоўнаму герою пра скліканы Вялікай Беларускай радай у снежні 1917 года з'езд, які быў разагнаны бальшавікамі. Здавалася б, няспраўджаныя надзеі на

афіцыйнае прызнанне Беларусі, *“поўная несвядомасць”* (Гарэцкі, 1990: 128) людзей, да якой прызвычаіўся апавядальнік, – усё паказвае на адсутнасць змен для беларускага народа ў “Северо-Западном крае”. Але не дарэмна аўтар адцягвае час сустрэчы героя з сялянамі да 1918 года. Гэты прыём дазваляе яму ахапіць большы прамежак часу і звярнуць увагу на вынікі намаганняў змагароў за свабоду: раней сялян трэба было “ўсведамляць”, цяпер яны самі гатовы пакласці жыццё за Беларусь, ідзе відавочнае пашырэнне народнага руху. Пісьменнік перакананы, што калі народ скінуў паноў і царскую ўладу дзеля роўнасці і свабоды, то ад *“простых прыблудаў”* (Гарэцкі, 1990: 132) прыгнёту тым больш цярпець не будзе. Акрамя таго, Гарэцкі бачыць амаль што прагрэсіўныя змены, што выражаюцца ў агульным настроі людзей, якія робяцца больш самастойнымі і сацыяльна актыўнымі.

Пісьменнік за самымі безвыходнымі з’явамі ўмее разгледзець жыццесцвярджальнае зерне. Апавяданне “Фантазія” (1921) пераконвае: пакуль намаганні і сялян, і прадстаўнікоў беларускага грамадскага руху застаюцца марнымі, пакуль на зямлі пераважаюць прагматычныя інтарэсы (як у апавяданні *“У 1920 годзе”*), фантасмагарычны сход бессмяротных беларускіх адраджэнцаў робіць сваю справу. Пісьменнік упэўнены, што гэтаму сходу немагчыма перашкодзіць, бо ён па-за межамі зямной улады. Для яго крывавыя падзеі на беларускай зямлі – “туман”. Гарэцкі, з аднаго боку, працягвае традыцыю ўскладання на пісьменніка найвышэйшай, прароцкай місіі, разам з тым нагадваючы паплечнікам па пяры пра ўласную адказнасць перад народам, з другога – сцвярджае своеасаблівую наканаванасць беларускага адраджэння, якое незаўважна, але непазбежна набліжаецца.

Такім чынам, для М. Гарэцкага, які вельмі востра рэагаваў на сітуацыю ў свеце, ваенна-рэвалюцыйныя падзеі праз пакуты і смерць неслі спадзяванні на адраджэнне Беларусі, яе дзяржаўнасці, нацыянальнай свядомасці суайчыннікаў. Таму пісьменніку было важна акцэнтаваць увагу на сцвярджэнні нацыянальных каштоўнасцяў беларускага народа. М. Гарэцкі, нягледзячы на трагічныя, крывавыя для краіны абставіны, сваімі апавяданнямі перадае чытачу ўпэўненасць у надыходзе адраджэння беларускай нацыі.

### *Бібліяграфія*

1. Гарэцкі, Максім (1984a). *Рускі.* Мінск: Мастацкая літаратура.
2. Гарэцкі, Максім (1984b). *У 1920 годзе.* Мінск: Мастацкая літаратура.
3. Гарэцкі, Максім (1990). *Усебеларускі з’езд 1917-га года.* Мінск: Мастацкая літаратура.